ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№7 (40) ліпень 2014 год
CATHOLICNEWS.BY

# Біскуп Алег Буткевіч: “Гісторыя Касцёла — гэта гісторыя чалавека, які шукае Бога”



...біскуп адзначыў, што ніякая варожая сіла не здольна знішчыць таго, што будуе Бог

Фота Кацярыны Лаўрыненка

**У вёсцы Параф’янава, што ў Докшыцкім раёне, адзначылі 110-гадовы юбілей касцёла.**

**Зміцер Лупач**

### “Зерне, упаўшы на зямлю, прынесла плён”

Урачыстасці з гэтай нагоды працягваліся два дні – 12 і 13 ліпеня. Святкаванне распачалося са святой Імшы, якую ўзначаліў кс. Тадэвуш Кавальскі. Трэба адзначыць, што ў гэты дзень у Параф’янаве чакалі біскупа Алега Буткевіча, але ён не змог прыехаць.

Як адзначыў у сваім слове да вернікаў пробашч касцёла кс. Раман Мурзіч, у гэтым таксама быў Божы провід, які вырашыў, што распачаць святкаванне ў Параф’янаве мусіў святар, каторы ў свой час быў сярод першых, хто аднаўляў гэту святыню. Айцец Раман працаваў у Параф’янаве 12 гадоў і карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод вернікаў. Прысутнічалі на Імшы і іншыя святары, якія ў свой час тут працавалі, у прыватнасці, кс. Дзмітрый Пухальскі, для якога Параф’янаўская парафія з’яўляецца малой радзімай.

У святочнай Імшы прыняло ўдзел шмат вернікаў, сярод якіх былі не толькі жыхары Параф’янаўскай парафіі, але і госці з іншых мясцін Беларусі. Варта адзначыць, не толькі з Беларусі, але і з іншых краін. Аўтару, у прыватнасці, давялося пагутарыць з гасцямі з Польшчы і Германіі. Прысутнічалі таксама і прадстаўнікі мясцовай улады: намеснік старшыні Докшыцкага райвыканкама Андрэй Шнітко, прадстаўніца аддзела ідэалогіі, кіраўнікі Сітцаўскага і Ваўкалацкага сельсаветаў.

Працяг чытайце на стар. 3

# Грахі Касцёла

**Крыжовыя паходы, інквізіцыя, антысемітызм, эксплуатацыя людзей... Многія ў наш час вельмі хутка і некрытычна прымаюць на веру ўсе гэтыя і падобныя да іх штампы, не паглыбляючыся ў сутнасць справы. У кожную гістарычную эпоху былі колы, якія намагаліся падарваць аўтарытэт Касцёла і пазбавіць яго ўплыву на чалавецтва. Не выключэнне і наш час. Нават больш за тое: можа здавацца, што сёння хрысціянства сапраўды дыскрэдытавала сябе дзеяннямі некаторых прадстаўнікоў Касцёла.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*



## Абвінавачванне ў педафіліі

Адным з найбольш гучных закідаў сучаснасці супраць Касцёла з'яўляецца абвінавачванне ў педафіліі сярод святарства. Не адмаўляючы гэтую праблему, нельга таксама яе дэманізаваць. Безумоўна, служэнне святара вымагае адпаведнага стаўлення да іншых людзей і асабістых учынкаў, таксама, як гэта вымагаецца і ад педагогаў, выхавальнікаў, псіхолагаў. Аднак менавіта на педафіліі сярод святароў акцэнтуецца ўвага грамадскасці. Таму нельга забываць і ігнараваць той факт, што маральны стан прадстаўнікоў Касцёла залежыць ад маральнага стану грамадства ў цэлым. Мы ёсць дзецьмі Бога, але таксама мы ёсць дзецьмі нашых бацькоў і нашага атачэння. Пытанне ў тым, што рабіць з гэтым маральным станам.

## Вырашэнне праблемы

Насуперак пашыранай думцы, Каталіцкі Касцёл не хавае дадзеную праблему, але паслядоўна працуе над тым, каб такі стан выправіўся. І на гэтым шляху выкарыстоўваюцца як дысцыплінарныя меры, так і меры пастырскія. Яшчэ Папа Бэнэдыкт XVI за два апошнія гады свайго пантыфікату пазбавіў сану амаль 400 святароў за падазрэнні ў педафіліі. Папа ж Францішак, які пастаянна сочыць за сітуацыяй і прымае адпаведныя захады, сваю турботу звяртае на ахвяраў сэксуальных злоўжыванняў духавенства. Вясною гэтага года ён асабіста папрасіў прабачэння і паабяцаў, што не зробіць ні кроку назад у вырашэнні дадзенай праблемы.

## Сустрэча з ахвярамі

7 ліпеня Папа сустрэўся з ахвярамі злоўжыванняў асобных святароў. Як паведамляе Беларуская рэдакцыя Ватыканскага радыё, Пантыфік выказаў шкадаванне, "што некаторыя святары і біскупы парушылі нявіннасць непаўналетніх і сваё святарскае пакліканне праз сэксуальныя дамаганні". "Гэтыя акты, – заявіў ён, – выклікаюць глыбокі сорам". Францішак папрасіў прабачэння таксама "за грахі халатнасці" з боку касцельнага кіраўніцтва, якое не паставілася адпаведным чынам да гэтай праблемы, што прывяло да далейшых пакут ахвяр злоўжыванняў. "У служэнні Касцёла няма месца для тых, хто здзяйсняе сэксуальны гвалт над непаўналетнімі. Я абавязуюся, што ў любым выпадку не пацярплю шкоды, нанесенай кімсьці непаўналетняй асобе, незалежна ад яго духоўнага статусу. Усе біскупы павінны выконваць сваё пастырскае служэнне з найвялікшай старannасцю, каб забяспечыць абарону непаўналетніх і ўсведамляць гэту фундаментальную адказнасць",

*У служэнні Касцёла няма месца для тых, хто здзяйсняе сэксуальны гвалт над непаўналетнімі*

– сказаў Святы Айцец.

Безумоўна, падобныя рэчы непрымальныя для служыцеляў Бога. Але іхнія дзеянні ніякім чынам не павінны вызначаць нашага стаўлення да Хрыстовага Касцёла, які ёсць па-над людскімі грахамі, які захоўвае і перадае людзям Праўду нават насуперак людской недасканаласці, бо *"мы гэты скарб носім у гліняных пасудзінах, каб было відаць, што гэтая вялізарная моц ад Бога, а не ад нас паходзіць"* (2 Кар. 4, 7). Грахі людзей няхай не закрываюць нам святасць Бога і тое дабро, якое наш Пан хоча даць нам праз Сваё Містычнае Цела – Касцёл.

## Феномен пакліканняў у дзвюх амерыканскіх вёсках

**Сёлета ў ЗША святарскія пасвячэнні атрымалі 477 святароў. Гэта, вядома, занадта мала, каб забяспечыць неабходныя патрэбы душпастырства. Мінімальная колькасць пакліканых павінна быць утрая большай. Увогуле Злучаныя Штаты адчуваюць крызіс пакліканняў.**

Аднак ёсць і выключэнні. Выданне «The New York Times» не без здзіўлення апісвае сітуацыю ў дзвюх суседніх невялікіх мясцовасцях у штаце Мічыган. У першай, якая завецца Фаўлер, жыве толькі 1200 чалавек, у другой, Вестфаліі, – крыху больш за 900. З кожнай з іх за апошнія гады ў цэлым выйшлі 22 святары і 80 манахінь. Таксама ў гэтым годзе там атрымалі пасвячэнні двое 26-гадовых двайнят.

Штодзённая Імша, Ружанец, ніякага тэлебачання і вялікія, нават па 10 чалавек, сем'і. У такіх умовах нараджаюцца пакліканні ў гэтых незвычайных вёсках. «Калі нядаўна ў адным класе я спытаў, хто думае пра пакліканне да святарства або манаскага жыцця, сярод 43 вучняў адразу некалькі паднялі руку», – распавядае а. Маціас Целен, святар з Вестфаліі.

*credo-ua.org*

# Слова ад рэдактара

**Дарагія сябры!**

З вялікай удзячнасцю хачу звярнуцца да ўсіх вас, хто чытае нашу газету, падпісваецца на яе і дасылае ахвяраванні. Дзякуючы вашай падтрымцы мы смела глядзім у будучыню і развіваемся не толькі як друкаванае выданне, але і ў якасці інтэрнэт-рэсурса, ствараючы і рэалізуючы розныя мультымедыйныя праекты. Як рэдактару мне вельмі прыемна атрымліваць ад вас шчырыя лісты і адказваць на тэлефанаванні. Дзякую таксама за карысныя парады і ідэі. Менавіта пра два новыя праекты хачу вам распавесці ў гэтым сваім звароце.

## Рубрыка "Газетны каляндар"

"Каталіцкі Веснік" пачынае рубрыку "Газетны каляндар". У кожным выпуску мы будзем расказваць і нагадваць нашым чытачам пра найбольш важныя святы ў Каталіцкім Касцёле і пра асаблівасці некаторых каталіцкіх абрадаў. Гэта дапаможа вам, дарагія чытачы, своечасова наведаць касцёл і выканаць свае рэлігійныя абавязкі.

## Рубрыка "Газетная закрыстыя"

Прыслухаўшыся да просьбаў нашых чытачоў, пачынаем таксама праект "Газетная закрыстыя". У чым яго сутнасць? Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення Св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю Св. Імшы. Цяпер гэта можна зрабіць праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы. Кожная Св. Імша будзе адпраўлена асобна. Мы не прымаем інтэнцыі на складковыя Св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 000 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: **+375-29-736-53-07.**

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто будзе адпраўляць Св. Імшы ў вашых нтэнцыях?



Гэта будуць рабіць беларускія святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій. Кожнаму, хто дашле інтэнцыю і ахвяраванне, будзе дасланы ліст з падзякай і пацвярджэннем адпраўленай Св. Імшы.

Дарагія сябры! Запрашаю Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце маладых беларускіх святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

Мне ж як рэдактару застаецца толькі яшчэ раз падзякаваць кожнаму за чулае сэрца і гарачую любоў да нашага з вамі Каталіцкага Касцёла.

*Кс. Віктар Місевіч,*
*галоўны рэдактар*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |
| **Святар, які адправіў Св. Імшу** *(запаўняецца святаром)* | |

Орша



# Вуглавы камень новага касцёла

**Субота, 28 чэрвеня, для многіх – гэта звычайны выходны дзень, пахмурнае надвор'е летнім ранкам. Але толькі не для вернікаў парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы, якія сабраліся разам з вельмі важнай нагоды.**

■ Марына Сінкевіч, *тэкст і фота*

Адбыліся тры значныя падзеі для яшчэ маладой парафіі: першы візіт кс. біскупа Алега Буткевіча як Пастыра Віцебскай дыяцэзіі, удзяленне сакраманту канфірмацыі і асвячэнне вуглавога каменя пад новую святыню.

Пяць гадоў таму ў парафію Беззаганнага Сэрца Марыі, якая была створана ў 2001-ым, быў накіраваны малады святар – кс. Валеры Орсік. Ён адразу працягнуў працу мінулых пробашчаў у справе пабудовы «святыні» ў сэрцах вернікаў. А праз тры гады свайго служэння ў парафіі распачынае ўзвядзенне новага цаглянага будынка касцёла.

Падмурак закладзены, сцены ўжо напалову ўзведзены. Настаў доўгачаканы момант – асвячэнне вуглавога каменя і закладка капсулы. На парафіяльную ўрачыстасць сабраліся святары з Аршанскага дэканата, законныя сёстры, парафіяне і госці, якія прыйшлі раздзяліць радасць з нагоды такой значнай падзеі.

Напрыканцы св. Імшы, кс. Валерый зачытаў Акт аб будаўніцтве новай святыні, пасля чаго біскуп Алег разам з усімі прысутнымі святарамі падпісалі гэты дакумент. На заканчэнне адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і Эўхарыстычная працэсія накіравалася да сцен новага касцёла, дзе біскуп Віцебскі разам з пробашчам парафіі заклалі капсулу ў новую Божую святыню.

# Будслаў прывітаў пілігрымаў

**4-5 ліпеня адбыліся ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Будслаўскай, на якія прыйшлі пешшу тысячы пілігрымаў з Беларусі і замежжа.**

■ Марына Сінкевіч, *тэкст і фота*

Віцебскую дыяцэзію прадставілі шэсць пешых пілігрымак (Полацк – 90 чалавек, Глыбокае – 167, Віцебск – 83, Браслаў – 80, Мёры – 70, Варапаева – 100) і дзве на роварах (Віцебск – 11, Глыбокае – 24). Усяго – 625 чалавек.

З Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі да Будслава прыйшло восем пілігрымак: з Маладзечна – 383 асобы, Ракава – 95, Вілейкі – 105, пакутная з Мінска – 59, пешая з Мінска – 296, з Нарачы – 234, Жодзіна – 153 і роварная з Мінска – 34 чалавекі.

Пінскую дыяцэзію рэпрэзентавалі тры пілігрымкі: Ружаны (роварная) – 6 асобаў, Баранавічы (роварная) – 14, Баранавічы (пешая) – 419 чалавек.

З Гродзенскай дыяцэзіі прыйшлі дзве пілігрымкі: з Гудагая – 130 чалавек, са Смаргоні – 170 асобаў.

**У цэлым 2700 пілігрымаў прыйшлі ў Будслаў пешшу!**



# Біскуп Алег Буткевіч: “Гісторыя Касцёла — гэта гісторыя чалавека, які шукае Бога”



*Працяг са стар.1*

На пачатку набажэнства ад імя вернікаў была агучана падзяка святарам, якія раней працавалі ў Параф'янаве, а таксама тым ксяндзам, што працуюць тут цяпер. Пробашч касцёла нагадаў вернікам, што менавіта ў гэтым касцёле ў 1933 годзе адслужыў сваю прыміцыйную Імшу кс. Мечыслаў Багаткевіч, які ў 1942 годзе трагічна загінуў у Беразвеччы ад рук нямецкіх акупантаў. У 1999 годзе гэты святар разам з іншымі беларускімі пакутнікамі Папам Янам Паўлам ІІ быў далучаны да ліку блаславёных.

Падчас Імшы вернікі паднеслі да алтара свае дары. Гэта камень як сімвал пачатку будаўніцтва, фотахроніку парафіі, стулу як падзяку святарам, ключы ад касцёла, а таксама хлеб і віно, што ў часе набажэнства ператвараюцца ў Цела Хрыста.

“Зерне, упаўшы на зямлю, прынесла плён”, – такі псальм спявалі ў той дзень у касцёле.

У сваім слове да вернікаў айцец Тадэвуш заклікаў падзякаваць Богу за святыню, за працу ўсіх людзей, што спрычыніліся да яе будаўніцтва і аднаўлення пасля гадоў занядбання. Ён нагадаў прысутным, што калі чалавек забываецца пра Бога, зачыняе дзверы святыні, то такі шлях вядзе ў тупік.

Напрыканцы набажэнства ансамбль народнага танца “Белыя крылы”, які прыехаў на свята з Маладзечна па запрашэнні ксяндза Рамана, выканаў танец анёлаў, чым вельмі расчуліў вернікаў. У некаторых людзей на вачах былі нават слёзы. Удзельнікі Імшы падзякавалі выканаўцам шчырымі працяглымі апладысментамі.

Айцец Марэк Пасют, які звярнуўся да вернікаў пасля выступлення “Белых крылаў”, адзначыў: “Раней я не раз казаў, што на вашу парафію сыходзіць вясна, але каб сышлі анёлы – гэта ўпершыню”.

Пасля Імшы вернікі прайшлі з працэсіяй вакол касцёла. Далей свята прадоўжылася ў Доме культуры на станцыі Параф'янава, дзе адбыўся канцэрт. Скончыўся першы дзень урачыстасцяў святочным феерверкам.

## “Бог на гэтай зямлі жыве!”

У нядзелю святочную Імшу цэлебраваў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Напачатку ён прывітаў вернікаў словамі: “Няхай урачыстасць будзе знакам удзячнасці, што Бог на гэтай зямлі жыве!”

Ён благаславіў адрэстаўраваны крыж і абраз у галоўным алтары касцёла, пасля ўдзяліў сакрамант канфірмацыі больш як паўсотні вернікам. У сваім слове біскуп адзначыў, што ніякая варожая сіла не здольна знішчыць таго, што будуе Бог.

“Гісторыя Касцёла – гэта гісторыя чалавека, які шукае Бога, гісторыя чалавека, якога знаходзіць Бог, у першую чаргу – гісторыя перамогі Хрыстовага крыжа і Божай ласкі”, – адзначыў біскуп Алег. Ён коратка распавёў пра гісторыю касцёла і парафіі ў Параф'янаве. Сучасны касцёл быў пабудаваны ў 1903 – 1904 гадах. Жывая ж святыня, як падкрэсліў святар, існавала і раней. Першы драўляны касцёл паўстаў тут у 1624 годзе. Ён прастаяў нядоўга і быў спалены падчас вайны з Масковіяй. Але ўжо ў 1675 годзе касцёл адбудавалі, яму надалі імя Дзевы Марыі, якое, дарэчы, святыня носіць і цяпер. 110 гадоў таму паўстаў новы будынак, але ў яго таксама быў няпросты лёс. У гады ваяўнічага атэізму касцёл зачынілі і зрабілі з яго склад завода. Але дзякуючы вернікам і святарам касцёл быў адноўлены, і зараз яго прыгожыя вежы пануюць над наваколлем.

Біскуп узгадаў святароў, якія ў розны час служылі ў гэтым касцёле, нагадаў вернікам і пра ксяндза Мечыслава Багаткевіча, які правёў тут сваю першую Імшу. Святар адзначыў, што і зараз гэта зямля нараджае святароў і, як прыклад, прывёў ксяндза Дзмітрыя Пухальскага, які прысутнічаў на гэтай урачыстасці.

На заканчэнне Імшы парафіяльны хор праспяваў гімн Параф'янаўскага касцёла, словы да якога напісала мясцовая паэтка Марыя Дзюбак. Музыку да яго па просьбе ксяндза Рамана Мурзіча напісаў Уладзімір Неўдах.

Гімн пачынаецца такімі словамі:

*У прыгожым кутку нашай роднай зямлі,*
*Дзе спакойная рэчка Галядза бруіцца,*
*Людзі гожы касцёл на вякі ўзвялі,*
*Ён для нас – жыватворнае веры крыніца.*

Закончыліся ўрачыстасці канцэртам каля парафіяльнага дома, дзе гледачоў парадваў сваім выступленнем гурт з Мінска “Nevrida”, запрошаны ў Параф'янава кс. Раманам Мурзічам.

# Васілёк на арнаце,

## або Што такое “Мануфактура капуцынаў”?

**Мануфактуру братоў-капуцынаў захацелася наведаць адразу, як толькі я пабачыў на сваё вочы рэалізацыю іх ідэі: гатовыя арнаты* для святароў, а таксама іншая літургічная вопратка. Надоўга думаючы, я прыняў запрашэнне наведаць Маладзечна, дзе і месціцца ТАА Sacris Vestibus – прадпрыемства, што шые літургічнае адзенне.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

На парозе нас прывітаў сам гаспадар і тэхнічны дырэктар майстэрні спадар Алег Новік. Ён адразу папярэдзіў, што галоўны ідэйны натхняльнік праекта айцец Арыюш яшчэ ў дарозе, таму на пачатку размовы мы засяродзіліся на тэхнічных момантах выпуску прадукцыі.



На здымку: айцец Арыюш, ідэйны натхняльнік праекта

### Шыюць нядорага, але прыгожа

“Наогул бізнэс – гэта для мяне не новая справа, – кажа спадар Алег. – Я паспрабаваў сябе і ў гандлі, і ў будаўніцтве, і ў грамадскім харчаванні. Таму на прапанову айцоў-капуцынаў адгукнуўся без асцярогі. Аднак павінен сказаць, што для мяне асабіста атрыманне прыбытку з майстэрні Sacris Vestibus – гэта другасная рэч. Найперш хочацца дапамагчы Касцёлу, паспрабаваць сябе ў нечым новым і рэалізавацца як вернік”.

*– Што, акрамя арнатаў, Вы можаце сёння прапанаваць касцельнаму спажыўцу?* – пытаюся, зўважаючы крыху воддаль гатовую прадукцыю.

– Мы ўжо цяпер шыем комжы, як для святароў з гафтам, так і больш простыя, для міністрантаў. Шыем альбы, стулы з розных тканін і рознага фасону, літургічную бялізну і абрусы на алтары. Збіраемся шыць сутаны для святароў, кашулі і нават проста звычайную вопратку для духавенства, – адказвае спадар Алег і падае свежанадрукаваны прайс. – Мы добра вывучылі рынак і выйшлі на канкурэнтныя цэны, – запэўнівае ён. – Таму цяпер нашым святарам не давядзецца ехаць у Польшчу і закупляць там усё неабходнае для касцёла. Майстэрня Sacris Vestibus гарантуе высокую якасць прадукцыі з цэнамі, якія ніжэйшыя чым у суседніх краінах.

З цікаўнасцю праглядаю пададзены мне прайс. Самая танная святарская комжа белага або крэмавага колеру абыйдзецца пакупніку ў 299 000 рублёў. А арнат беларускае духавенства зможа набыць найтанней за 725 000 рублёў. Прыкідваю ў галаве сумы і прыходжу да высновы, што літургічнае адзенне беларускага вытворцы мае сапраўды больш прывабную цану, чым, напрыклад, адзенне ў крамах Любліна, што ў Польшчы.

*– Калі справы так добра выглядаюць, быць можа, варта было б задумацца і пра іншыя рынкі збыту?*

– Так, маеце рацыю. Мы ўжо ствараем сайт, дзе можна будзе выбраць тавар, аплаціць яго і чакаць, калі кур’ер прывязе па адрасе. Таму такая сістэма дазволіць нам займець і замежных пакупнікоў.

### У майстэрні працуюць людзі розных веравызнанняў

Дырэктар падводзіць мяне да сваіх супрацоўнікаў і працягвае расповед пра майстэрню. “Мы даём працу пяці асобам. Гэта няшмат, але плануем пашырацца ў будучыні. Цікава, што ў майстэрні працуюць людзі розных веравызнанняў”.

Падыходжу да швачкі, якая спрытна закладае матэрыял у швейную машыну і пачынае шыць. Вольга Вярынская сама праваслаўная, але кажа, што праца ў такой нетыповай майстэрні ёй вельмі цікавая. “Напачатку трэба было засвоіць

*Вольга Вярынская сама праваслаўная, але кажа, што праца ў такой нетыповай майстэрні ёй вельмі цікавая*

некаторыя асаблівасці, але ў прынцыпе шыць арнаты – гэта зусім няцяжка для спрактыкаванай швачкі”, – запэўнівае Вольга.

*– Павінен быць, напэўна, хтосьці, хто спраектуе гэтую прыгажосць?* – пытаюся ў спадара Алега.

– Гэта ўсё наш канструктар Ірына Голуб. Яна рыхтуе ўзоры ў спецыяльнай праграме, каб пазней машыны маглі вышыць узоры для арнатаў. Тэарэтычна мы можам змясціць на арнатах любы ўзор і нават аблічча, напрыклад, нейкага святога ці абраз Маці Божай. Усё залежыць ад жадання заказчыка.

У пацвярджэнне гэтага яшчэ адзін супрацоўнік майстэрні, спадарыня Людміла Прывалава, паказвае мне рэшту адзення, якая ўжо вісіць на вешалцы і чакае пакупнікоў. Арнаты сапраўды маюць прыгожыя вышытыя ўзоры, пра якія казаў спадар Алег. Я не магу ўстрымацца ад спакусы апрануць гэтую прыгажосць на сябе. Спадарыня Людміла падае мне адзенне. З усмешкай заўважаю, што яна робіць гэта вельмі прафесійна, як сапраўдны закрыстыянін. Хвіліна – і альба ўжо на мне. Затым апранаю арнат. Адзенне прыемнае на дотык. Па якасці пашыву нічым не адрозніваецца, чым з той жа Польшчы. Адзінае – этыкетка прыпамінае, што адзенне яшчэ не ўжывалася падчас набажэнстваў.

### Капуцыны памагаюць беларускаму адраджэнню

Дзверы адчыняюцца, і ў майстэрню заходзіць айцец Арыюш – галоўны крэатыўшчык праекта. “Айцец, – пытаюся, – як вы дадумаліся да такога: пачаць шыць арнаты?”

– Майстэрня Sacris Vestibus – гэта толькі частка аднаго вялікага праекта, які называецца “Мануфактура капуцынаў”. Мы імкнёмся, каб у сваім служэнні дбаць не толькі пра рэлігійную паслугу, але і развіваць сацыяльны напрамак. Паглядзіце, у майстэрні Sacris Vestibus мы далі працу пяці асобам. Ці ж гэта не цудоўна!? Мы марым таксама пра тое, каб арганізаваць каталіцкі дзіцячы садок. Ёсць думкі пра адкрыццё кузні. Уявіце сабе: ёсць вельмі таленавіты чалавек, які мог бы быць цудоўным кавалём, але ён не мае грошай на адкрыццё бізнэсу. Мы б хацелі дапамагчы яму ў гэтым. Нашы эканамічныя праекты заснаваныя на адным прынцыпе: у цэнтры ўсяго павінен быць чалавек, а не грошы. Трэба працаваць і зарабляць для дабра чалавека або групы людзей, а не дзеля акумуляцыі сродкаў.



На здымку: спадар Алег Новік, дырэктар ТАА *Sacris Vestibus*

*– Дапамагаць сапраўды варта. У чым яшчэ могуць аказаць падтрымку грамадству браты-капуцыны, акрамя малітоўнага і сацыяльнага служэння?*

– Мы хочам, каб беларусы паверылі ў сябе. У беларусаў выдатная гісторыя і культура, цудоўная мова! Мы хочам падкрэсліць гэтую беларускую ўнікальнасць і самабытнасць. Таму, напрыклад, ідзём у кірунку таго, каб літургічнае адзенне аздабляць беларускім арнаментам. Агульнавядома, што раней слуцкімі паясамі ўпрыгожваліся арнаты, каб такім чынам захаваць паясы ад знішчэння. Мы таксама хочам распрацаваць сучасныя арнаты, дзе б быў вышыты элемент слуцкага пояса, – кажа айцец Арыюш.



На развітанне жадаем супрацоўнікам майстэрні і братам-капуцынам поспехаў у рэалізацыі сваіх праектаў. Перад намі, карэспандэнтамі “Каталіцкага Весніка”, яшчэ шмат цікавых сустрэч і рэпартажаў. Шмат касцёлаў і набажэнстваў. Прыемна будзе бачыць беларускіх святароў у літургічным адзенні, якое спраектавана і вышывата клапатлівай рукой тут, на Радзіме, у роднай Беларусі.

**Даведка**

**Заказаць прадукцыю ў майстэрні Sacris Vestibus можна па тэлефонах: +375176744129 +375296195381**

*арнат – літургічнае адзенне, якое святар апранае на Св. Імшу.



## Дыяцэзіяльныя дні моладзі

**Санктуарый Маці Божай Валадаркі Азёраў Браслаў 2014**

### Праграма

**Чацвер, 7 жніўня**

**13.00** – рэгістрацыя
**15.00** – катэхеза на тэму "Навошта маліцца?"
**16.00** – праца ў групах
**17.00** – катэхеза на тэму "Штодзённы рахунак сумлення"
**18.00** – споведзь, размовы са святаром
**19.00** – Эўхарыстыя
**20.00** – вячэра
**21.00** – малітва праслаўлення + канцэрт хрысціянскага гурта "Рыбы"

**Пятніца, 8 жніўня**

**08.00** – сняданне
**09.00** – катэхеза на тэму "Раніца з Богам" + малітва
**10.45** – катэхеза на тэму "Малітва Божым словам" + практыка
**13.00** – Эўхарыстыя
**14.00** – абед
**15.00 - 17.00** – Вяночак да Божай Міласэрнасці, адарацыя, споведзь
**17.00** – катэхеза на тэму "Малітва заступніцтва і праслаўлення"
**19.00** – вячэра
**20.00** катэхеза "Малітва аб духоўным і фізічным аздараўленні" + малітва

**Субота, 9 жніўня**

**08.00** – сняданне
**09.00** – малітва
**09.30** – катэхеза "Не кожны, хто кажа мне "Пане, Пане", увойдзе ў Валадарства Нябеснае"
**11.00** – Эўхарыстыя
**12.30** – адарацыя
**13.00** – абед, заканчэнне

Рэгістрацыя ўдзельнікаў пачынаецца 7 жніўня (чацвер) а 12.00.
Запіс па тэлефонах:
**с. Наталля:** +375 33 677 50 81
**а. Аляксандр:** + 375 29 713 02 33
**а. Тадэвуш:** + 375 29 592 65 69

# Дзяўчаты ля алтара: прыгожа ці несур'ёзна?

**Не сакрэт для кожнага, што асобы, якія стаяць каля алтара, прыцягваюць увагу вернікаў у касцёле. Таму часта можна пачуць, што дзяўчаты, калі б служылі міністранткамі, упрыгожвалі б сваёй прысутнасцю святое месца. Але ці было б гэта сур'ёзна? Што пра гэта думае сама моладзь?**

***Апытвала Марына Брылёнак***

**Андрэй Даўжонак:**
– Адназначнага адказу ў мяне няма. Галоўнае, каб чалавек ставіўся да гэтай справы вельмі адказна і з вельмі вялікай радасцю, каб быў адданы гэтаму, памятаючы, што ён удзельнічае ў таямніцы Хрыста.



**Настасся Ландышка:**
– Я лічу, што быць міністрантам – гэта вялікі гонар. Па праўдзе кажучы, заўсёды зайздросціла хлопцам-міністрантам. Вядома, у добрым сэнсе гэтага слова. Акрамя таго, што хлопцы ў белых комжах з'яўляюцца своеасаблівым «упрыгожаннем» алтара, яны выконваюць важную місію – дапамагаюць святару падчас Святой Імшы. Мне здаецца, што міністранты знаходзяцца бліжэй да Бога. Заўсёды хацелася хоць разочак пабываць на іх месцы.



**Алёна Фянько:**
– Мая думка: міністрантамі павінны быць толькі хлопцы. З Езусам былі Апосталы, і яны былі мужчыны, якія дапамагалі Яму, а жанчыны прыслугоўвалі ім. І ўвогуле прыгажэй выглядае, калі хлопцы стаяць побач са святаром. Для дзяўчат ёсць шмат іншых занняткаў, напрыклад, чытаць ці спяваць.



**Марыя Літвіновіч:**
– Я лічу, што ля алтара павінны служыць хлопцы: вучні Езуса – мужчыны. Дзяўчаты могуць спяваць псальм, агучваць чытанні і малітву вернікаў. Але ніяк не служыць ля алтара.



**Марыя Радзюш:**
– "Хачу таксама, каб вы ведалі, што кожнаму мужу галава – Хрыстос, жонцы галава – муж, а Хрысту галава – Бог" (1 Кар. 11:3). Я лічу, што дзяўчаты не могуць быць міністранткамі, паколькі Езус выбраў сабе 12 апосталаў-мужчын. А жанчынён надзяліў такімі асаблівасцямі, якія адрозніваюць нас ад мужчын: жанчына больш пяшчотная, клапатлівая, бо яна мама і носіць пад сэрцам дзіця.





**У Марыйным санктуарыі ў Тракелях 12 ліпеня сабралася вялікая колькасць вернікаў. Многія з іх прыйшлі пешшу, нягледзячы на праліўны дождж і халодны вецер на апошніх кіламетрах шляху, што магло спалохаць большасць пілігрымаў. Але для людзей, якія крочаць да Марыі, гэта не з'яўляецца перашкодай.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

# Ружанцы замест аўтаматаў:

## у Тракелях біскуп Станеўскі заклікаў маліцца за мір ва Украіне

Прамоклыя і замёрзлыя пілігрымы найперш увайшлі ў святыню, каб пакланіцца Божай Маці і пакласці да ног Марыі свае просьбы і падзякі, якія прынеслі з сабой.

Маладыя вернікі, крочачы ў пілігрымцы з Лідскай Фары, прынеслі ў Тракелі Крыж і абраз Маці Божай Salus Populi Romani – сімвалы Сусветных дзён моладзі, якія ўсю ноч і ўвесь наступны дзень ушаноўваліся і адорваліся вялікай колькасцю людзей.

Галоўную адпустовую св. Імшу цэлебраваў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Маці Божую Тракельскую называюць таксама Каралевай сем'яў, таму іерарх звярнуў увагу на дэмаграфічны крызіс у Беларусі і заахвоціў маладых бацькоў нараджаць мінімум траіх дзяцей, каб адно з іх магло заснаваць хрысціянскую сям'ю, другое – прысвяціць сваё жыццё Богу ў святарскім ці манаскім пакліканні, а трэцяе – застацца працаваць у вёсцы.

Падчас Эўхарыстыі ўзносіліся просьбы за паўсюдны касцёл, за Айца Святога і біскупаў, за маладых людзей і пакліканні на Божую ніву. Біскуп Юзаф Станеўскі заклікаў таксама маліцца за ўкраінскі народ, каб ваяры замест аўтаматаў узялі ў свае рукі ружанцы і каб не паўтарылася біблійная гісторыя пра Каіна і Авеля.

Урачыстасць у Тракелях завяршылася. Вернікі развіталіся з рэліквіямі Сусветных дзён моладзі, што закончылі пілігрымаваць па парафіях Беларусі. Наступнай краінай, якая прыняла ад беларусаў гэтыя сімвалы, стала Літва.



## Каляндар

**25 ліпеня – успамін св. Крыштафа**

25 ліпеня адбываецца благаслаўленне кіроўцаў і асвячаюцца транспартныя сродкі, таму што св. Крыштаф з'яўляецца апекуном вадзіцеляў. У гэты ж дзень таксама адзначаецца свята апостала Якуба.

**6 жніўня – свята Перамянення Пана**

Гэтае свята не з'яўляецца абавязковым, таму 6 жніўня можна працаваць.

**15 жніўня – урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі**

Гэтая ўрачыстасць абавязковая. Таму 15 жніўня католікам нельга працаваць і трэба наведаць касцёл, каб прыняць удзел у святочнай Імшы. Унебаўзяцце – гэта старажытнае хрысціянскае перакананне, што Панна Марыя напрыканцы жыцця з душой і целам была ўзята ў неба. Названая ісціна веры была абвешчана ў якасці дагмату Папам Піем XII у 1950 г.

**22-23 жніўня – святкаванне ўрачыстасці Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе (Віцебская дыяцэзія)**

Далёкія

## Міжпарафіяльная пілігрымка

**11 і 12 ліпеня 2014 года ў Далёкіх адбылася III Міжпарафіяльная пілігрымка ўдзельнікаў руху адновы і евангелізацыі.**

Да нас завіталі госці з Глыбокага, Пастаў, Опсы і Пагошчы са сваімі ксяндзамі-пробашчамі. З вернікамі з Лынтупаў мы падтрымлівалі духоўную сувязь, памятаючы пра іх у час размоў і малітвы.

З нагоды гэтай сустрэчы ў касцёле Святога Станіслава ў пятніцу і ў суботу Святую Імшу ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. Яго натхнёныя прамовы кранулі сэрца ўсіхпрысутных,аасабісты ўдзел у спатканні дапамог многім зразумець неабходнасць той справы, якая распачата ў парафіі.

Перад Св. Імшой прадстаўнікі кожнай парафііпрэзентавалісваю дзейнасць за гэты год. Пасля супольнай малітвы работнікі Далёкаўскага СДК прапанавалі забаўляльную праграму з песнямі, гульнямі і танцамі, у час якой была магчымасць больш блізка пазнаёміцца адно з адным.

У другі дзень пілігрымкі адбылося спатканне ў пяці суседскіх групах на тэму "Супрацоўніцтва". Рэлігійныя спевы, малітва, чытанне Слова Божага, чытанне з Дакументаў II Ватыканскага сабору паступова падвялі да разважанняў аб тым, што такое сапраўдная дапамога, для чаго патрэбнае супрацоўніцтва. Удзельнікі груп разам шукалі адказ на пытанне: "Што мы можам зрабіць, каб рэальна развіваць супрацоўніцтва паміж людзьмі?", а потым, перад Святой Імшой, у касцёле прэзентавалі свае напрацоўкі.

Кожны па-свойму ўспрымаў тую інфармацыю, якую пачуў за гэтыя два дні. Аднак выснова такая: толькі ў супрацоўніцтве і дапамозе адно аднаму можна збудаваць адзінае Цела Хрыста – Касцёл. Толькі супольнымі намаганнямі і дапамогай можна дасягнуць узаемаразумення паміж народамі, паміж рознымі культурамі, пакаленнямі, у сем'ях, на працы, паміж суседзямі. Але пачынаць змены заўсёды патрэбна з сябе.

*Ірына Высоцкая*



# ЯК ПРАВІЛЬНА ПА-БЕЛАРУСКУ: "БЛАГАСЛАЎЛЯЦЬ" ЦІ "БЛАСЛАЎЛЯЦЬ"?

**У сучаснай моўнай практыцы мы бачым паралельнае выкарыстанне дзеясловаў "благаслаўляць" і "блаславіць", а таксама дзеепрыметнікаў "благаслаўлёны" і "блаславёны" і назоўнікаў "благаслаўленне" і "блаславенне". Аднак не выпадае прыведзеныя пары слоў лічыць раўнапраўнымі варыянтамі.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Лексема "благаслаўляць" з'яўляецца стараславянізмам. Першая частка названага дзеяслова – "блага" – у сучаснай беларускай мове рэалізуе безасабова-прэдыкатыўнае значэнне "цяжкі фізічны або душэўны стан каго-небудзь" ці адлюстроўвае "дрэнныя, неспрыяльныя абставіны, акалічнасці". Напрыклад, у Васіля Быкава чытаем: *"Чамусьці Валоку зрабілася блага – ён хіснуўся ад вады"*. У рускай жа мове "благо" – гэта сінонім да слова "хорошо". Таму нельга ні ў якім разе атаясамліваць значэнні слова "блага" ў беларускай і рускай ("благо") мовах. Тут мы маем справу з міжмоўнай аманіміяй, калі аднолькавае паводле гучання слова адлюстроўвае розны сэнс.

Дзеяслоў "благаслаўляць" і аднакаранёвыя словы іншых часцін мовы захоўваюць глыбокі сакральны сэнс. Але першая частка – "блага" – ніяк не спрыяе такой сакралізацыі, уносіць істотны элемент алагізму ў гэтае канцэптуальна важнае для кожнага хрысціяніна з беларускай ментальнасцю паняцце. Словаформа "блаславіць" якраз не мае падобных негатыўных адценняў. Яна, між іншым, зафіксавана ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Мінск, 1977, Т.1, с. 384) разам з назоўнікам ""блаславенне" і дзеепрыметнікам "блаславёны". Гэтыя ж лексемы падае таксама і нядаўна выдадзены "Энцыклапедычны слоўнік рэлігійнай лексікі беларускай мовы", аўтарамі якога з'яўляюцца кандыдат гістарычных навук ксёндз У. Завальнюк, доктар філалагічных навук М. Прыгодзіч і вядомы мовазнаўца В. Раманцэвіч (Мінск, 2013, с. 130). Акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (Мінск, 2012) фіксуе названыя лексемы на с. 119: "блаславенне" і "благаслаўленне", "блаславенны", "блаславёны" і "блаславёны", "блаславіць".

Беларускі перыядычны друк таксама аддае перавагу лексічным адзінкам без часткі "блага". Некалькі прыкладаў: *Папа Рымскі* ***блаславіў*** *беларусаў* (Загаловак "Народная воля, 05.10.12); *Святыя айцы не проста даюць сваё* ***блаславенне...*** (Новы час, 28.09.12); *Капліцы ў брамах у сярэднявеччы ладзілі для таго, каб абараніць горад ад захопаў ды каб* ***блаславіць*** *падарожнікаў* (Звязда, 24.11.12).

Заўважым таксама, што, акрамя разгледжаных слоў, у нашай мове час ад часу ўжываюцца лексемы "дабраслаўленне", "дабраславіць".

Падсумоўваючы ўсё сказанае, адзначым, што не варта ўжываць у сучаснай беларускай мове словаформы "благаславіць" ці "благаславенне". Па-беларуску павінна быць "блаславіць" і "блаславенне" / "блаславенне".



## Каледж запрашае!

**Катэхетычны каледж імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах аб'яўляе набор студэнтаў на новы навучальны 2014/2015 год.**

Сёлета навучальная ўстанова прапануе **тры спецыялізацыі:**

**1. Катэхетыка.** Прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння ўстановы працаваць у парафіях у якасці катэхета (выкладчыка катэхізіса). Студэнты гэтай групы, акрамя вывучэння тэалогіі, маюць магчымасць паглыбленага навучання ў галіне тэарэтычных асноваў і практычных метадаў катэхізацыі, што існуюць у Каталіцкім Касцёле.

**2. Агульная тэалогія.** Прадугледжана для асобаў, якія не маюць намеру працаваць катэхетамі. Гэтая спецыялізацыя разлічаная на людзей, што жадаюць паглыбіць сваю веру і веды, вывучаючы каталіцкую тэалогію. Акрамя таго, студэнты маюць магчымасць удасканаліць свае веды ў рэлігійных аспектах гуманітарных навук.

**3. Сямейнае кансультаванне.** Прадугледжана для асобаў, якія жадаюць на прафесійным узроўні дапамагаць душпастырам у вырашэнні разнастайных духоўных і маральных пытанняў, звязаных з сужэнскім і сямейным жыццём вернікаў.

Ва ўстанову прымаюцца асобы ад 18 гадоў.

Навучанне ў каледжы працягваецца тры гады (з верасня па чэрвень уключна), па завочнай форме – у першую і трэцюю суботу і нядзелю месяца.

**Каб стаць студэнтам Катэхетычнага каледжа, неабходна:**

**1. Вызначыцца са спецыялізацыяй.**

Набор студэнтаў адбываецца ў адну з трох груп па спецыялізацыі на выбар:

а) катэхетыка (для ахвотных працаваць катэхетам);

б) агульная тэалогія (без права выкладання катэхізіса);

в) сямейнае кансультаванне.

**2. Прадставіць наступныя дакументы:**

Заява на імя дырэктара (напісаная ўласнаручна);

Біяграфія (напісаная ўласнаручна);

Рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;

Копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі (мірапамазання);

два фотаздымкі 3×4;

Копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;

Копія пашпарта;

Медыцынская даведка па форме 086.

**3. Здаць экзамен па катэхізісе і прайсці вусную кваліфікацыйную размову.**

Тэрмін падачы дакументаў і здачы экзамену вызначаецца непасрэдна перад пачаткам уступнай кампаніі.

Уступны экзамен для абітурыентаў у 2014 г.:
31 жніўня – першы тур
7 верасня – другі тур

Увага! Пажадана перад падачай дакументаў звязацца з сакратарыятам каледжа па тэлефоне або праз электронную пошту і ўзгадніць час прыёму дакументаў.

**Падрабязная інфармацыя па тэлефонах:**

+375 (0163) 57-93-14
+375295135792 (МТС)
Факс: +375 (0163) 57-93-07
E-mail: callegge@gmail.com

*Паводле матэрыялаў catcollege.by*

# На якой мове маліцца?

***"Хвала Хрысту! У якіх дакументах абумоўліваецца выкарыстанне беларускай мовы ў набажэнствах, а ў якіх – польскай?"***

**Адказвае кс. Валерый Марціноўскі, г. Гарадок (Віцебская дыяцэзія):**

– Справу мовы ў Касцёле рэгулюе Канстытуцыя пра святую Літургію Другога Ватыканскага сабору Sacrosanctum Concilium. У пункце №36 мы чытаем наступнае: § 1. У лацінскіх абрадах захоўваецца выкарыстанне лацінскай мовы, за выключэннем выпадкаў, вызначаных мясцовым правам. § 2. Аднак паколькі ў св. Імшы, пры цэлебрацыі сакрамантаў і ў іншых частках Літургіі выкарыстанне нацыянальнай мовы нярэдка можа быць вельмі карысным для вернікаў, яе можна шырэй выкарыстоўваць, асабліва ў чытаннях і настаўленнях, у некаторых малітвах і спевах адпаведна з нормамі, якія ў гэтай справе будуць дэталёва акрэслены ў наступных раздзелах (гэтай канстытуцыі). – *Заўвага аўтара*).

Калі мы кажам пра юрыдычныя нормы, якія акрэсліваюць выкарыстанне нацыянальных моваў у Паўсюдным Касцёле, то варта назваць наступныя каноны Кодэкса кананічнага права:

Кан. 826 §2, 838 §2 і §3 (выдаванне і пераклад літургічных кніг), кан. 825 (выдаванне перакладаў Св. Пісання), кан. 249, 257 §2 (адукацыя семінарыстаў), кан. 928 (адпраўленне Св. Імшы).

Што датычыць партыкулярнага Касцёла ў Беларусі (акрамя Гродзенскай дыяцэзіі), абавязковымі разам з агульнакасцельнымі законамі з'яўляюцца Статуты сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій 2001 г. Хоць яны не змяшчаюць канкрэтных прадпісанняў адносна мовы ў Літургіі, але ва ўступе да Статутаў ёсць апісанне працы Сіноду, дзе змешчана таксама невялікая заўвага пра мову. Вось гэты тэкст: «У Літургіі, набажэнствах, карэспандэнцыі, сінадальных публікацыях абавязковай была беларуская і польская мовы...».

Таму, хоць няма канкрэтнага дакумента ў справе мовы падчас набажэнстваў у тых дыяцэзіях, дзе абавязваюць нормы Сіноду, але тым не менш ёсць узор, якімі мовамі можам карыстацца ў касцёле на Літургіі: лацінскай, беларускай і польскай. Што да выбару між беларускай і польскай мовамі, то святары кіруюцца душпастырскім меркаваннем у дадзенай справе згодна з распараджэннямі мясцовага біскупа.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ганна Курыловіч** (в. Новы Пагост, Мёрскі р-н), **Людміла Каросцік** (Параф'янава), **Леанарда Яцына** (в. Заточча, Верхнядзвінскі р-н), **Ганна Карніловіч** (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н), **Яніна Зінкевіч** (в. Пліса, Глыбоцкі р-н), **Сцепаніда Лупач** (в. Завараты Глыбоцкі р-н), **сям'я Тупека** (в. Дзеркаўшчына, Глыбоцкі р-н), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Леанід Грыбач** (Гомель), **Яніна Дулінец** (Шаркаўшчына), **Марына Міслюк** (Барысаў), **Алена Муляронак** (Віцебск), **Ядвіга Кісель** (Вілейка), **Алена Бурч** (Ліда), **Юрый Жагунь** (Шчучын), **Аліна Кулікоўская** (Шчучын).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Як стаць манахіняй-эўхарысткай?

*Пытанне з сайта catholicnews.by:*
***"Скажыце, калі ласка, як можна далучыцца да супольнасці сясцёр-эўхарыстак?"***

**На пытанне адказвае с. Тацціяна Гмыза SJE:**

– Кангрэгацыя Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі – гэта манаская супольнасць, якая цалкам прысвяціла сябе малітве і апостальскай дзейнасці ў Касцёле. Заснаваў супольнасць блаславёны Юры Матулевіч, які ў 1923 г., калі з'явіліся эўхарысткі, быў Віленскім біскупам. Духоўнасць кангрэгацыі абапіраецца на Эўхарыстыю. У канстытуцыі эўхарыстак напісана: *"Цэнтрам духоўнага жыцця і апостальскай дзейнасці ўсёй супольнасці і асобных законніц з'яўляецца Езус Хрыстус у таямніцы Эўхарыстыі. Сёстры павінны імкнуцца ўвесь час як мага лепш пазнаваць Яго, наследаваць і любіць, жыць кожны дзень Яго духам".*



**На здымку:** блаславёны Юры Матулевіч – заснавальнік манаскай супольнасці Кангрэгацыі Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі

У сваёй апостальскай дзейнасці і ў адносінах з людзьмі эўхарысткі пашыраюць любоў да Хрыста, які прабывае на алтарах, а таксама заахвочваюць словам і прыкладам аддаваць Яму пашану ва ўсіх магчымых формах. Дэвіз кангрэгацыі – "Усё для Хрыста і праз Хрыста" – нахняе ўсё жыццё і дзейнасць сясцёр.

Першы год жыцця ў Кангрэгацыі называецца "пастулят". Ён можа праходзіць у любым доме сясцёр. Далейшыя два гады – "навіцыят" – час асаблівы ў манаскім жыцці. Час цішыні, малітвы і працы. Потым сястра складае першыя шлюбы, якія аднаўляе 5-9 год. У Беларусі сёстры працуюць у 6 месцах (Браслаў, Друя, Слабодка, Полацк, Барысаў, Астравец).

На сённяшні дзень галоўны дом Дэлегатуры сясцёр-эўхарыстак у Літве і Беларусі знаходзіцца ў Браславе.

Даведацца падрабязней пра жыццё сясцёр можна ў любым кляштары, дзе жывуць эўхарысткі.

**Кантакты:**
вул. Савецкая, 13
211970 г. Браслаў
Віцебская вобл.
Тэл. 8(02153) 2-23-46

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**27 ліпеня 2014 г. — Мц, 13, 44-52**

Дар Божага жыцця ў нас, Божага валадарства, Божага збаўлення мае вялікую каштоўнасць. Бывае, што гэты дар даецца нечакана, выпадае, як прыз у латарэі. А бывае наступствам доўгіх пошукаў. Але заўсёды – гэта вялікая каштоўнасць і Божы дар, які нельга адкінуць. Дар, за каторы варта аддаць усё, ахвяраваць усім. Вакол Езуса збіраюцца добрыя і дрэнныя людзі. Таму Ён і запрашае да Божага жыцця ўсіх. Але гэта не значыць, што Ён ухваляе зло і тых, хто гэтае зло чыніць. Прыйдзе дзень Суду. Таму трэба выкарыстоўваць дадзены нам Богам час, каб Госпад зрабіў з нас "добрую" рыбу.

*– Ці шукаю я Бога?*

*– Ці шукаю і ці знаёмлюся з прынцыпамі духоўнага жыцця?*

*– Ці жыву паводле натхненняў Божага духа?*

*– Ці адкрыты я на нечаканыя Божыя дары?*

*– Ці з'яўляюся я годным і пастаянным шукальнікам Божай ласкі?*

*– Ці прымаю з адвагай Божыя натхненні, Яго дар, калі сустракаюся з імі?*

*– Ці пакідаю непатрэбныя рэчы, каб мець тое, што атрымліваю ад Бога?*

*– А можа, празмерна цаню зямныя часовыя каштоўнасці?*

*– Якім чынам я іду за Езусам?*

*– Ці прыносіць мая вера плён?*

*– Ці адштурхоўваю ад Бога грэшнікаў?*

*– Што раблю, каб дапамагчы знайсці Бога дрэнным людзям?*

*– Я "добрая ці дрэнная рыба" ў Божай сетцы?*

**3 жніўня 2014 г. — Мц, 14, 13-21**

Езус можа задаволіць наш голад. Таксама і духоўныя прагненні людзей. І робіць гэта з вялікай шчодрасцю. Дае размножаны хлеб, як прарокі ці як Маісей манну з неба. У Езусе знойдзем наталенне ўсіх нашых патрэбаў. Ён дае ўсё, што нам трэба для вечнага жыцця. Размнажэнне хлеба з'яўляецца прадказаннем і падрыхтоўкай да прыняцця дару Эўхарыстыі. Гэта ў часе Эўхарыстыі Бог корміць на стале Слова і на стале Цела і Крыві. Гэта шыкоўная ежа, якая дае жыццё.

*– Ці бачу я свае духоўныя, фізічныя і эмацыянальныя патрэбы?*

*– Ці не задавольваю іх часам насуперак Хрысту?*

*– Да каго звяртаюся, каб заспакоіць свой рознага кшталту голад?*

*– Ці ўмею з Езусам і згодна з Яго воляй перажываць патрэбы свайго цела, сваіх пачуццяў, сваёй душы?*

*– Ці веру, што Ён – усё, што мне трэба, што ўсё, што маю, маю ад Яго, на Яго хвалу і на маё шчасце?*

*– Якім чынам удзельнічаю ў Эўхарыстыі?*

*– Ці імкнуся спажываць ежу Цела і Слова Хрыста?*

*– Ці жыву тым, што спажываю?*

*– А можа, атручваю сябе іншай ежай, якая забівае тое, што спажыў на Эўхарыстыі?*

*– Ці з чыстым сэрцам прымаю Святую Камунію?*

*– Ці слухаю Божае слова і ці жыву паводле Яго?*

**10 жніўня 2014 г. — Мц, 14, 22-33**

Езус – Бог. Прысутны ў нашым жыцці і блізкі. Ён перарастае нашы магчымасці. Таму, убачыўшы Яго дзеянні ў нашым жыцці і ў свеце, не трэба палохацца. Не трэба лічыць Яго прывідам або спрабаваць зменшыць Яго ролю ці старацца ахапіць нашымі разумовымі здольнасцямі. Трэба Яму верыць і ісці за Ім па хвалях так, як гэта рабіў Пётр. Вера, аднак, патрабуе вернасці. Не трэба сумнявацца, асабліва калі ў дарозе сустракаюцца цяжкасці і перашкоды. Давер у хвіліны цяжкасцяў у дарозе за Езусам робіць нашу веру яшчэ больш дасканалай.

*– Ці не змяншаю Бога да ўзроўню сваіх страхаў, сваіх пачуццяў, свайго бачання свету?*

*– Ці дазваляю Богу перарастаць мае чаканні?*

*– Ці веру ў Езуса, якім Ён хоча мне аб'яўляцца?*

*– Ці іду за Ім?*

*– Ці не трачу ў хвіліны цяжкасці давер да Яго?*

*– Ці давяраю Яму хоць тады, калі пачынаю ўжо "тануць"?*

*– Можа, думаю, што ў дарозе за Езусам мяне не сустрэнуць перашкоды і праблемы?*

*– Ці разумею, што пераадольванне цяжкасцяў з Езусам з'яўляецца часткай Яго плана?*

**17 жніўня 2014 г. — Мц, 15, 21-28**

У Божы план уваходзіла спачатку абвяшчэнне Евангелля толькі габрэям, каб яны неслі яго свету. Язычніца просіць Езуса аб вызваленні дачкі з-пад улады злога духа. Езус нагадвае ёй аб Божым плане, паводле якога Ён павінен абвяшчаць Евангелле. Жанчына не пярэчыць Божай мудрасці, Яго плану і рашэнню, але просіць выслухаць яе. Езус пахваліў веру гэтай язычніцы, таму што яе давер Богу – асноўны элемент сапраўднай веры. Прызнанне Езуса сваім Панам і Богам, а таксама поўны давер Богу, даверанне Яму ўсіх спраў і бедаў – гэта сапраўдная вера. Такая вера, такі давер Богу прынеслі плён – аздараўленне дачкі.

*– Ці не хачу займаць месца Бога і вучыць Яго, як Ён павінен збаўляць свет?*

*– Ці давяраю я Богу, спадзеючыся, што Ён ведае, што, дзе, як і калі зрабіць, каб я быў шчаслівы?*

*– Ці звяртаюся да Бога ў сваім няшчасці?*

*– Ці Езус – гэта Пан майго жыцця?*

*– А можа, я хачу перахапіць ад Яго першае месца ў маім сэрцы?*

*– А можа, не Езус, а хтосьці ці штосьці займае гэта першае месца ў маім сэрцы?*

*– Я зайздрошчу?*

*– Ці не перашкаджае мне зайздрасць жыць і ці не руйнуе маіх адносін з Богам і іншым чалавекам?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Пілігрымка ў Італію! Запрашаем!!!

**Адчуць ласку Божую, паглыбіць свой духоўны досвед, а таксама наведаць знакамітыя хрысціянскія святыні, помнікі гісторыі і культуры сусветнага значэння, далучыўшыся да пілігрымак у Ватыкан – цэнтр Каталіцкага Касцёла, – прапануе парафія Святога Лаўрэна ва Ушачах. У жніўні-верасні парафія ладзіць дзве вялікія пілігрымкі аўтобусам.**

**З 1 па 11 жніўня** ўшацкія парафіяне разам з вернікамі з іншых куткоў Беларусі плануюць духоўнае падарожжа ў малітвах і роздумах па Польшчы, Аўстрыі і Італіі. Пілігрымы наведаюць польскую нацыянальную святыню (Чанстахова), аўстрыйскую сталіцу – Вену, найпрыгажэйшыя італьянскія гарады – Мілан, Венецыю, Фларэнцыю і "вечны горад" – Рым. Кульмінацыяй стане імша па-беларуску ў Ватыкане.




**Пілігрымка з 2 па 16 верасня** мае надзвычай насычаную праграму, бо, апроч Чанстаховы, Вены, Венецыі, Мілана, Фларэнцыі і Рыма, запланавана наведванне Неапаля і Пампей, а таксама (па жаданні) Пізы, Лукі, в. Капры. Пры гэтым у Фларэнцыі, Рыме і Неапалі пілігрымы правядуць па тры дні, што дазволіць надаць належную ўвагу тым духоўным і культурным скарбам, на якія наздвычай багатыя гэтыя гарады.

**Ахвяра на пілігрымкі:** з 1 па 11 жніўня – **450 еўра**; з 2 па 16 верасня – **590 еўра**. Сюды ўваходзяць выдаткі на праезд у абодва бакі, пражыванне ў гатэлях і харчаванне.

Даведацца пра вольныя месцы, атрымаць больш інфармацыі, запісацца ў пілігрымкі можна па тэлефонах: Вэлком +375 29 718 95 82 (кс. Аляксей), +375 29 631 76 96; МТС +375 29 506 30 71, а таксама на старонках парафіі ў сацыяльных сетках: vk.com/swlauren і facebook.com/groups/swlauren.

## Прагама ўрачыстасцяў у гонар Маці Божай Валадаркі Азёраў

**Браслаў, 22-23 жніўня 2014 г.**

**Пятніца, 22 жніўня 2014 г.**

**16.00** – святая Імша ў Трыдэнцкім абрадзе
**18.00** – святая Імша з удзяленнем сакраманту канфірмацыі (узначаліць дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі)
**20.00** – канцэрт духоўнай музыкі
**21.00** – выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, набажэнства ў гонар Панны Марыі, канферэнцыя
**22.30** – набажэнства для вернікаў усходняга абраду

**Субота, 23 жніўня 2014 г.**

**24.00** – святая Імша на польскай мове (узначаліць правінцыял сальватарыянаў а. Пётр Філас)
**01.30** – ружанцовая малітва, працэсія са свечкамі
**03.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і набажэнства да Божай міласэрнасці
**07.00** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі
**08.00** – святая Імша (цэлебруюць святары, якія паходзяць з Браслава)
**09.00** – ружанцовая малітва
**11.00** – галоўная ўрачыстая святая Імша на палявым алтары з удзелам біскупа Віцебскага Алега Буткевіча. Эўхарыстыю ўзначаліць Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці

## Росіца запрашае на свята!

**Айцы-марыяне запрашаюць да ўдзелу ў Росіцкіх урачыстасцях**

1-2 жніўня 2014 г. у в. Росіца Верхнядзвінскага р-на збяруцца вернікі, каб ушанаваць памяць мучаніцкай смерці блаславёных а. Юрыя Кашыры і а. Антонія Ляшчэвіча. Пачатак урачыстасцяў – 1 жніўня а 18.00.

З гэтай нагоды адбудуцца наступныя пілігрымкі:
**Барысаў – Росіца:** 25.07 – 01.08
адказны – а. Вадзім Мізер MIC
(+ 375 33 355 96 60)
**Друя – Росіца:** 30.07 – 01.08
адказны – а. Канстанцін Анашка MIC
(+ 375 29 984 86 68)
**Полацк – Росіца:** 29.07 - 01.08
адказны – а. Аляксандр Жарнасек MIC
(+ 375 29 713 02 33)
**Велапілігрымка Жодзіна – Росіца:** 28.07 – 01.08
адказны – а. Міхаіл Цвячкоўскі MIC
(+ 375 29 136 52 89)

## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры, запрашаем вас падпісацца на газету "Каталіцкі Веснік"!**

Падпіска на перыяд ад жніўня да снежня 2014 года (5 месяцаў) каштуе **19750 рублёў**.
Кошт падпіскі на 3 месяцы – **11850 руб.**, на 1 месяц – **3950 руб.**

**Нам вельмі важная Вашая падтрымка!**

Падпісваючыся на "Каталіцкі Веснік", Вы дапамагаеце нам абвяшчаць Добрую Вестку. Божае слова дзякуючы Вашай дапамозе можа ўвайсці ў кожным дом.

**Падпішыся на "Каталіцкі Веснік"!**
Наш індэкс 63783.

## Імша ў шпіталі

Для пацыентаў Віцебскага клінічнага шпіталя (вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 37) ёсць магчымасць прыняць удзел у Св. Імшы. Эўхарыстыя адпраўляецца **кожную суботу ў 19.00** у капліцы Маці Божай Лурдскай. Капліца знаходзіцца каля аддзялення рэабілітацыі побач з магазінам "Пінгвін".

Усе ахвотныя могуць запрасіць святара з сакраментальнай паслугай у палату, патэлефанаваўшы па тэл. **+375336487471**.

## Віншуем!

*Шчыра віншуем паважанага ксяндза Аляксандра Півавара з Днём нараджэння, які ён адзначыў 7 ліпеня!*

*Няхай міласэрны Езус, Якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх далонях, прытуліць Вас да свайго сэрца і адорыць моцным здароўем, хай благаслаўляе на доўгія гады на святарскім шляху. Няхай Маці Божая, Якая даручыла свайго Сына ў Вашы рукі, абараняе Вас мацярынскай любоўю і ахінае сваёй апекай.*

*Нізка кланяемся і дзякуем нашаму былому вікарыю за словы навяртання, за дабрыню.*

***Клерык Уладзіслаў і яго сям'я** з парафіі Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах*

## Віншуем!

*Хутка час ідзе... Амаль шэсць гадоў мінула з тае пары, як кс. Аляксандр Грыцкевіч увайшоў у нашае жыццё. Стаў сведкам і паблаславіў заручыны, даў шлюб, стаў хросным бацькам нашаму сыну. У кожную падзею, добрую ці дрэнную, дробязную ці велічна-святочную, гэты святар заўсёды з намі. Ён стаў неад'емнай часткай нашай сям'і.*

*Хочам падзякаваць кс. Аляксандру за падтрымку, за клопат, за давер і шчыра павіншаваць шаноўнага святара з 5-годдзем святарства. Жадаем шчодрых ласкаў Духа Святога ў яго пастырскім служэнні. А міласэрная Любоў Бога няхай заўсёды атуляе яго!*

***Сям'я Папяленкаў***

## Сардэчна віншуем!

*У нашага святара кс. Яўгена 22 ліпеня – дзень нараджэння. З гэтай нагоды мы, усе вернікі нашага касцёла, шчыра і сардэчна віншуем яго і жадаем усяго найлепшага: Божай ласкі і апекі Маці Божай, каб ён назаўсёды захаваў у сваім сэрцы вернасць і адданасць Святому Касцёлу і парафіянам, бадзёрасці і аптымізму, здароўя. Мы ўсе яго вельмі любім і паважаем.*

*Парафіяне касцёла св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (г. Паставы)*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5132

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 15.07.2014 г. у 19.21

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: +375-29-736-53-07
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621
9772224962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ